

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 413 Травень-Чэрвень 1994**
Год выд. 43

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ
## СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ І ПАРАДАК
### СТАРШЫНЯ БНФ ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

Пазьняк Зянон Станіслававіч нарадзіўся 24 красавіка 1944 г. ў м. Суботнікі Івеўскага р-на Гродзенскай вобл. Яго бацька Станіслаў Янавіч і маці Ганна Яўхімаўна, карэнныя беларусы, у той час працавалі на зямлі. Бацька загінуў у сьнежні 1944 г. на фронце.

Зянон Пазьняк у 1967 г. скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. У 1969 г. паступіў у асьпірантуру Акадэміі навук. У 1975 г. па палітычных прычынах звольнены з працы, дысэртацыю кандыдата навук быў вымушаны абараняць у Расейскай Фэдэрацыі, у Ленінградзе. З 1976 г. працуе старэйшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі, дасьледуе помнікі археалогіі і архітэктуры позьняга Сярэднявечча.

Адкрыў злачынства ў Курапатах. У 1988 г. быў ініцыятарам стварэньня БНФ. У 1990 г. абраны народным дэпутатам. Старшыня Апазыцыі БНФ у Вярхоўном Савеце.

Пазьняк — валявы чалавек. Даводзіць задуманае да канца, не спыняецца перад цяжкасьцямі. Можна не сумнявацца, што сваю запаветную мару — убачыць родную Беларусь свабоднай і багатай краінай — ён зьдзейсьніць.

**Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»** і яго кіраўнік **Зянон Пазьняк** выступаюць за ўладу для народу, а не для скарумпаванай наменклатуры.

Таму, пасьля перамогі на выбарах мы перш за усё:

### Усталюем у грамадзтве законнасьць і парадак

Органы ўлады, міліцыя, армія будуць ачышчаны ад карупцыянераў. Злодзеі павінны сядзець у турме, а не займаць дзяржаўныя пасады.

Будуць прыняты спэцыяльныя законы, дадзены адпаведныя правы і сродкі праваахоўным органам для барацьбы са злачыннасьцю.

Будзе спынена наменклатурная «прыхватызацыя». Усё, што наменклатура нарабавала ў дзяржавы, будзе вернута праз суд.

Дзяржаўныя межы Беларусі будуць адкрытыя для гандлю, чалавечных кантактаў, але закрытыя для злачынцаў. Наша краіна больш ня будзе прахадным дваром для мафіёзных груповак іншых краін. Будзе забаронены гандаль зброяй.

### Сфармуем урад сумленных прафэсіяналаў

Пачнуцца сапраўдныя рэформы ў інтарэсах Беларусі і яе народу.

Будуць уведзены стабільныя беларускія грошы. Гэта спыніць інфляцыю і рост цэн, запоўніць прылаўкі якасным таварам.

Беларуская эканоміка будзе адкрыта для свабоднага гандлю. Новы ўрад будзе імкнуцца да заключэньня раўнапраўных эканамічных пагадненьняў з усімі краінамі, а найперш з суседнімі.

Зьменіцца бюджэтная палітыка, што дазволіць зьнізіць падаткі і падтрымаць вытворцаў.

У той-жа час будзе ўведзены прагрэсыўны падатак на нярухомасьць. Уладальнікі шыкоўных маёнткаў будуць плаціць падатак, які пойдзе ў фонды сацыяльнай дапамогі пэнсыянэрам і дзецям.

Новы ўрад будзе праводзіць пасьлядоўную праграму разьдзяржаўленьня й прыватызацыі ў інтарэсах простых людзей.

Новы закон аб зямлі спросьціць яе перадачу ў прыватную ўласнасьць тым, хто на зямлі працуе. Але мы супраць гвалтоўнага разгону калгасаў: мы выступаем за паэтапную іх рэарганізацыю ў сельскагаспадарчыя каапэратывы, акцыянэрныя таварыствы, фэрмэрскія гаспадаркі і г.д.

Будзе створаны рынак нярухомасьці, а новы закон аб інвэстыцыях прывабіць у Беларусь замежных інвэстараў, якія прынясуць сучасныя тэхналёгіі і створаць новыя месцы працы для грамадзян нашай краіны.

Новы ўрад створыць належныя ўмовы для людзей высокакваліфікаванай працы і для разьвіцьця беларускай навукі.

Новае кіраўніцтва скарыстае выгаднае геаграфічнае становішча Беларусі. Беларусь будзе атрымліваць вялікія грошы за трубаправодныя, чыгуначныя, паветраныя і іншыя транзытныя перавозкі праз нашу тэрыторыю. Будзе ажыцьцёўлены праект Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, які дазволіць Беларусі і нашым суседзям купляць нафту там, дзе яна дзешавей.

Будзе ўзяты курс на эканамічную інтэграцыю Беларусі і іншых дзяржаваў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, а ў пэрспэктыве — на ўваходжаньне Беларусі ў агульнаэўрапейскія эканамічныя структуры.

### Беларуская дзяржава будзе служыць сваім грамадзянам

Адбудзецца кампэнсацыя страчаных у выніку інфляцыі грашовых укладаў.

Новы ўрад накіруе грошы з чарнобыльскага падатку на дапамогу пацярпелым людзям, а не чыноўнікам.

Будзе прыняты закон аб выкарыстаньні іншаземнай рабочай сілы. Вакантныя рабочыя месцы ў першую чаргу будуць займаць грамадзяне Беларусі.

Новы ўрад створыць новую сыстэму сацыяльнай абароны насельніцтва. Дзяржава будзе абараняць тых, хто ў такой абароне мае патрэбу.

Беларуская дзяржава забясьпечыць пэнсыянэрам спакойную старасьць. Дзяржава падзеліцца з пэнсыянэрамі, перадаўшы частку сваёй маёмасьці на карысьць пэнсыйнага фонду.

Мы лічым найважнейшым дзяржаўным клопатам прэстыж і дабрабыт сям'і. Час выхаваньня дзяцей будзе залічвацца ў працоўны стаж жанчын. Маладыя сем'і будуць атрымліваць доўгатэрміновыя льготныя крэдыты на будаўніцтва жыльля.

Выдаткі на адукацыю і культуру — гэта грошы, укладзеныя ў будучыню нацыі. Трэба разьвіваць багатую беларускую культуру і ў традыцыйных, і ў сучасных формах; нельга дапусьціць, каб у нас панавала прымітыўная масавая культура.

### Мы ўмацуем беларускую дзяржаву

Будзе ўведзена зручная і бліжэйшая да людзей сыстэма мясцовай улады. Мясцовых кіраўнікоў будзе выбіраць непасрэдна сам народ.

Зь Беларусі будуць выведзены расейскія войскі.

Новый ўрад нацыяналізуе незаконна перададзеную іншым дзяржавам ці іх суб'ектам дзяржаўную маёмасьць Беларусі.

Будзе ўмацаваны нэўтралітэт Беларусі. Беларускія салдаты і афіцэры ніколі ня будуць праліваць кроў за чужыя інтарэсы.

Мы лічым, што галоўная задача беларускай зьнешняй палітыкі — наладжваньне раўнапраўных, узаемавыгадных партнёрскіх дачыненьняў з Расейскай Фэдэрацыяй.

Беларусь будзе трымацца міжнародна-прававых нормаў і Гэльсінскіх пагадненьняў. Межы Беларусі будуць межамі міру.

Мы будзем адстойваць інтарэсы беларускай дзяржавы на міжнароднай арэне. Будзе пастаўлена пытаньне, каб урад Расеі – пераемніцы СССР выплаціў нашай краіне кампэнсацыю за Чарнобыль.

### Мы аб'яднаем беларускае грамадзтва

Мы абараняем інтарэсы ўсіх грамадзян беларускай дзяржавы, незалежна ад іх нацыянальнасьці, веры ці палітычных поглядаў.

Мы гарантуем сапраўды свабодныя выбары ў новы Вярхоўны Савет Беларусі.

**Напасьледак — самае галоўнае.**
**Мы некалькі стагодзьдзяў ня жылі**
**ў незалежнай дзяржаве.**
**Мы адвыклі быць незалежнымі.**
**Але мы адбудуем наш дзяржайны дом –**
**Незалежную Беларусь.**

---

### УВАГА

Паводля апошніх вестак Зянон Пазьняк набраў ужо больш за 200,000 подпісаў каб быць кандыдатам на прэзыдэнтскія выбары.

### НАЗІРАНЬНЕ ЗА ВЫБАРАМІ

Камісія пры Амэрыканскім Кангрэсе для Бясьпекі і Супрацоўніцтва у Эўропе, г.зв. Гельсынскаўская Камісія, галавой якой зьяўляецца сэнатар Дэніс Дэ Кансіні, высылае двух супрацоўнікаў для назіраньня за ходам падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў у Беларусі.

---

Апошняя інфармацыя, паводля радыё Свавода, на 15-га траўня: сем кандыдатаў набралі патрэбныя подпісы. Вячаслаў Кебіч і Генадзь Карпенка набралі подпісы ў Вярхоўным Савеце. Больш за 100 000 агульных падпісаў набралі Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч, Васіль Новікаў (галава камуністычнай партыі Беларусі), Аляксандар Лукашэнка і Аляксандар Дубко, старшыня Савету калгасаў. Ёсьць меркаваньне, аднак, што некаторыя кандыдаты, каб не разьбіваліся галасы, зракуцца на карысьць другіх, мацнейшых.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Дарагія суродзічы!

Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі з кожным годам набіраюць што раз большага значэньня ў жыцьці беларускага далёкага й блізкага замежжа, а таксама й Беларусі. Беларуская дзяржаўнасьць ёсьць пад вялікай пагрозай. Апошняе слова яшчэ не сказана. Вось таму сёлетняя Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі мае яшчэ большае значэньне, чым папярэднія. Кожны мае зрабіць вялікі высілак і на Сустрэчу у Таронто, прыехаць. Ніводзен з нас, што праз даўгія гады трымаў ідэю беларускага дзяржаўнага адраджэньня ў сваім сэрцы і аддаў шмат часу і сродкаў, ня можа цяпер сядзець бясчынна і прыглядацца з абыякавасьцяй да таго, што робіцца ў Беларусі. Яшчэ і яшчэ, мы мусім выказваць свой голас на ўвесь сьвет і казаць праўду пра лёс беларускага народу. Мы ня маем права пакінуць у забыцьці Курапаты й Чарнобыль. Мы ня можам быць толькі назіральнікамі падзеяў, што адбываюцца ў Беларусі, дзе сілы мінулага за ўсякую цану намагаюцца затрымаць прагрэс і павярнуць час назад.

10-га красавіка 1994 г. у Гайлянд Парк адбылося супольнае паседжаньне прадстаўнікоў Галоўнай Управы БАЗА і Галоўнай Управы ЗБК з удзелам старшыняў аддзелаў БАЗА Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі і паасобных сяброў. Былі прысутныя: Сп. Антон Шукелайць, сп. Юрка Азарка, сп-ня Алла Орса-Романо, сп-ня Рая Станкевіч, сп. Францішк Бартуль, сп. Янка Запруднік, сп. Аляксандар Міцкевіч, сп. Янка Азарка, сп. Міхась Тулейка, сп. Вітаўт Кіпель, сп. Мікола Ганько, сп. Аляксандар Максімюк і іншыя. На парадку дня было адно пытаньне — 21-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. У уступным слове сп. Мікола Ганько падкрэсьліў, што, каб Сустрэча была удалай і карыснай, трэба добрай падрыхтоўкі і ўкладу думак усіх дзейных і думаючых сяброў БАЗА і ЗБК. Таксама было зазначана, што Сустрэча ня ладзіцца па тое, каб сабрацца і добра правесьці час, але каб была адначасна зробленая карысная праца, што дасьць добры плён на будучыню. Пасьля даволі доўгіх меркаваньняў прысутныя дайшлі да высնаву, што тэмамі Сустрэчы будуць «Сучаснае палажэньне ў Беларусі», «Роля беларусаў Канады і ЗША у беларускім нацыянальна-палітычным працэсе».

Паводле розных прапановаў гэты пункт павінен складацца з некалькі частак: Курапаты — беларускі галакост; Узаемадзеяньне паміж старэйшым і малодшым пакаленьнем беларускага замежжа і яго будучыня; Чарнобыльская трагэдыя і бяда ў Беларусі; магчымы ўплыў на дзейнасьць урадаў Канады і ЗША у дапамозе Беларусі.

Арганізатары просяць каб кожны, хто будзе браць удзел у Сустрэчы і мае нешта ўнесьці ў яе, хай рыхтуе свае думкі і высновы, запісвае іх і перасылае іх на адрыс Галоўнай Управы БАЗА або Галоўнай Управы ЗБК, не пазьней як 1-га жніўня, каб усе матэрялы маглі быць сабраныя загадзя. Практыка мінулых гадоў паказала, што пры добрай падрыхтоўцы, можна шмат зрабіць карыснай працы і кожны ўдзельнік Сустрэчы будзе вяртацца дамоў з пачуцьцём задавальненьня, а не з пачуцьцём змарнаванага часу і высілку.

Сустрэча па форме будзе такой самай, як Сустрэча 1988 году ў Торонто й мінулая Сустрэча ў Нью-Брансвіку.

Мы заахвочваем ўсіх ўдзельнікаў рэгістравацца у сваіх асяродках, каб арганізатары маглі прадугледзіць патрэбы ўдзельнікаў. Праграмы-запросіны з інфармацыяй пра кошты начлегу і ўтрыманьня на час Сустрэчы будуць ужо ў хуткім часе разасланыя ўва ўсе беларускія асяродкі ЗША і Канады.

Просім усіх не адвалакаць сваіх намераў, а сваечасова рэгістравацца на Сустрэчу ў Таронта.

Таронта — Мікола Ганько, Старшыня ЗБК
Нью-Ёрк — Антон Шукелайць, Старшыня Галоўнай Управы БАЗА

**Адрас ЗБК: Belarusian Canadian Alliance 524 St. Clarens Ave., Toronto, Ontario. M6H 3W7 Canada Tel. & Fax: (416) 267-0798**

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**
**запрашаюць беларускае грамадзтва на**

## 21-Ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ,

**якая адбудецца сёлета ў Labor Day Weekend**
**3-5 верасьня ў ТОРОНТО, Канада**

**ТЭМА СУСТРЭЧЫ**

***Сучаснае палажэньне ў Беларусі і***

**Роля Беларусаў Канады і ЗША ў беларускім нацыянальна-палітычным працэсе:**

*Курапаты — Беларускі Голокост.*
*Накіраваньне усіх нашых сілаў у адно русло.*
*Узаемдзеяньне паміж старэйшым і малодшым пакаленьньнем.*
*Чарнобыльская трагэдыя і бяда Беларусі.*
*Наш уплыў на ўрады Канады і ЗША у адносінах дапамогі Беларусі.*

**ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:**

**Субота 3-га верасьня:**

**гадз. 2 па паўдні — *АДКРЫЦЬЦЁ СУСТРЭЧЫ***
*Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар*
*524 St. Clarens Ave., Toronto*

**гадз. 2.30 па паўдні — *ПРАЦОЎНЫЯ СЭСІІ***

**гадз. 8.30 вечара - *БАЛЬ СУСТРЭЧЫ***
*TRIUMPH HOWARD-JOHNSON PLAZA HOTEL*
*2737 Keele Street, Toronto, Ont.*

**Нядзеля 4-га верасьня:**

**гадз. 9.30 – БАГАСЛУЖБА**

**гадз. 12.30 – АБЕД У БРГЦ**

**гадз. 3 па паўдні — УРАЧЫСТЫ СХОД СУСТРЭЧЫ І КАНЦЭРТ**
*TRIUMPH HOWARD-JOHNSON PLAZA HOTEL*
*2737 Keele Street, Toronto, Ont.*

**гадз. 8 вечара — *СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР***
**Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар**
*524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont.*

Арганізатары Сустрэчы просяць удзельнікаў сваечасова паведаміць пра намер удзелу ў Сустрэчы дзеля забясьпечаньня мейса начлегу.

По інфармацыі просім зьвяртацца: in Cleveland – J. Chanienka (216) 781-7231; in New York – A. Mickievich (212) 271-8015; in Highland Park – New Brunswick – J. Azarko (908) 545-6654; in Toronto – A. Maksimiuk (416) 769-3650; in Montreal – A. Chrenowski (514) 973-1639; in Ottawa – J. Survilla (819) 770-2783; in Chicago – Dr. V. Ramuk (312) 745-8916.



### УВАГА!

На просьбу Віктара Сянькевіча (Язэпа Барэйкі) падаем ягоны новы адрас да ведама сяброў і слухачоў ягоных перадачаў на радыё «Свабода»:

V. Sienkievich (Jazep Barejka)
1190 Linda Mar Blvd.
Pacifica, California 94044
USA

## ПАЧАТАК ЛІКВІДАЦЫІ ДЗЯРЖАВЫ

Гэтак ацаніла бальшыня беларускага нацыянальнага друку Рэспублікі Беларусь, шмат расейскамоўных газэтаў ды спэцыялістаў-палітыкаў і эканамістаў на Захадзе і ў Злучаных Штатах Амэрыкі падпісаны прэм'ер міністрам Вячаславам Кебічам дагавор у Маскве 12-га красавіка сёлета аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў Расеі і Беларусі.

Беларускае палітычнае грамадзтва дыяспары абуранае гэтым ганебным учынкам пра-расейскага прэм'ера ды поўнасьцю салідарызуецца з дамаганьнямі прадстаўнікоў дэмакратычных пластоў Беларусі аб прыцягненьні В. Кебіча да судовае адказнасьці за парушэньне канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Мы падтрымваем і будзем дапамагаць усім беларускім арганізацыям дыяспары інфармаваць заходнеэўрапэйскіх і амэрыканскіх палітыкаў аб незаконнасьці гэтага акту ды закулісных гульнях старое камуністычнае каманды прысьпешыць зьнішчэньне новапаўсталае беларускае дзяржавы.

### УЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ РБ

Былая Беларуская Ваенная Акруга, межы якое супадалі зь межамі БССР, налічвала 250 тысячаў войска, утрымліваньне якога лягло вялікім цяжарам на бюджэт Рэспублікі Беларусь. У выніку праводжаных цяпер рэформаў колькасьць ваенных на Беларусі павінна быць скарочаная да 100 тысячаў да канцы сёлетняга году. Рэформа ўзброеных сілаў РБ базуецца на дактрыне бязьядзернасьці і нэўтральнасьці. У арміі цяпер бязьдзетныя мужчыны й жанчыны ў веку ад 19 да 35 гадоў могуць служыць па кантракце тэрмінам ад трох да шасьці гадоў за месячную плату (зволненую ад падатку) 400-500 тысячаў беларускіх рублёў.

### КДБ ПЕРАБУДОЎВАЕЦЦА

Беларусь перабудоўвае структуру КДБ (Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі), аб чым заявіў 3-га травеня Генадзь Лявіцкі, цяперашні галава КДБ. Галоўная ўвага КДБ Беларусі цяпер будзе скіраваная на разьведку ды контр-разьведку, а таксама на ахову дзяржаўных структураў і жыцьцёва-важных аб'ектаў.

# РЭХА 25-га САКАВІКА

## САКАВІКОВАЕ СЬВЯТА Ў ЧЫКАГА



*На Сакавіковым сьвяткаваньні. Сядзець зь-лева на-права: а. Сіру, Уладзімір Ганчаронак, Міхась Сысой. Стаяць: Пат Міхальскі, Т. Зелінскі і Вера Рамук*

76-ыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі былі адзначаныя Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага 17-га красавіка. Надвор'е выдалася сонечнае й даволі цёплае, што спрыяла ўзьнёсламу настрою.

Пасьля ўрачыстай літургіі у каталіцкай царкве ўсходняга абраду Хрыста Збаўцы, айцец Я. Сыру у прынагоднай казані нагадаў пра важнасьць нацыянальнай урачыстасьці ды пасьлядоўнасьці ў змаганьні за поўную рэалізацыю ідэі незалежнасьці Беларусі.

А гадзіне 12 па-паўдні публіка пачала зьбірацца ў банкетавай залі Рыджэнсы Гол, прыгожа й густоўна аднаўленай летась.

Урачыстая акадэмія пачалася пасьля адсьпяваньня амэрыканскага гімну спадаром Хозэ Галярза. У прынагоднай малітве а. Я. Сыру, прасіў Усявышняга Бога дапамагаць беларускаму народу ў нацыянальным адраджэньні і ўсе прысутныя адсьпявалі «Магутны Божа».

З прывітальным словам выступіла сп-ня Вера Рамук, сакратарка Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага. Хвілінай маўчаньня прысутныя ўшанавалі памяць загінуўшых нацыянальных гэрояў у змаганьні за незалежную Беларусь.

Пачаўся абед, у часе якога перадаваліся беларускія песьні ў выкананьні Данчыка. Праграму ўдала вёў др. Ролянд Талівэр — ён і прадставіў гасьцей, сярод якіх былі Уладзімір Ганчаронак, эканамічны дараднік Беларускай амбасады ў Вашынгтоне з жонкай Марыяй, летувіскі консул В. Кляйза з жонкай, польскі консул Т. Зелінскі, сп-ня Пат Міхальскі, асыстэнтка губэрнатара Іліной Джыма Эдгара па этнічным справам, сп. Ванкарэм Нікіфаровіч, журналіст і Міхась Сысой, старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага.

Цікавы й зьмястоўны даклад на тэму дня прачытаў па-беларуску, з кароткім уводным словам па-ангельску, сп. Ванкарэм Нікіфаровіч, у якім адзначыў падзеі ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. З прывітальным словам выступіў летувскі консул В. Кляйза.

У праграме вакальна-музычнай, у першай частцы, выступаў кампазытар Міхась Клейнер-Парыч, які выканаў тры песьні сваёй кампазіцыі, пад акампаніямэнт на гітары Якава Кантаровіча: «Нам ніколі не памерці», на словы Сяргея Панізьніка, «Менскі вальс», словы й музыка М. Клейнэра (Пераклад на беларускую мову зрабіў В. Нікіфаровіч) і «О Беларусь, мая шыпшына», на словы Уладзімера Дубоўкі.



*Сьпявае Міхась Клейнэр-Парыч*

Наступна выступіў з прывітаньнем польскі консул Т. Зелінскі, у якім нагадаў, што беларускі народ быў мала знаны сьвету, але цяпер увесь сьвет усьвядоміць, што гэта народ вялікіх патэнцыялаў і вялікай культуры.

Сп. Уладзімер Ганчаронак прачытаў прывітаньне ад беларускага пасла Сяргея Мартынова, у якім азначалася, што **«справа далейшага разьвіцьця саматстойнасьці Бацькаўшчыны, бязумоўна вартая таго, каб і надалей аддаваць ёй сваю энергію і творчыя сілы, як рабілі гэта сумленныя беларусы на працягу дзесяцігодзьдзяў, знаходзячыся ў аддаленьні ад Радзімы. Еднасьць беларусаў сьвету, іх агульная адданасьць справе нашай дзяржавы — гэта тое, што будуе незалежную нацыю».**

Сп-ня Вера Рамук уручыла ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту дошчачку узнагароды й прызнаньня сп-ні Пат Міхальскай за ейную шматгадовую дапамогу й спагадлівасьць беларускай справе. Падзякаваўшы за гэты гонар Пат Міхальскі, сказала, што і ў далейшым будзе старацца спрыяць беларускай справе.

Сп. Нікадэм Жызьнеўскі, у сваім кароткім слове, нагадаў, што атрымаў ад губэрнатара Іліной Джыма Эдгара ліст з адзнакай прызнаньня за вядзеньне беларускай радыёпраграмы на працягу 34-х гадоў.

Праклямацыі ад маёра гораду Чыкага Рычарда Дэйлі і ад губэрнатара Іліной Джыма Эдгара прачытаў др. Талівэр.

Сп-ня Вера Рамук пералічыла дасланыя прывітаньні: ад старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раісы Жук-Грышкевіч, ад старшыні БАЗА Антона Шукелойця, ад др. Мацьвея Смаршчка з Мантэсэла, у штаце Мінэсота, ад старшыні Кліўлендзкага аддзелу БАЗА Янкі Ханенкі, да сп-ні Каці Вініцкай з Кліфорніі і ад пастара Яна Пятроўскага з Флярыды.

З прывітальным словам ад імя Беларускай Нацыянальнай Рады і Праваслаўнай Царквы Сьв. Юрага выступіў Мікалай Латушкін, у якім зацеміў, што шлях змаганьня за незалежнасьць нашай краіны ідзе праз вялікія цяжкасьці, але ёсьць надзея, што Беларусь зойме годнае мейсца сярод іншых народаў.

Міхась Клейнэр-Парыч, прадоўжваючы мастацкую частку, зноў выступіў з трымя песьнямі: «Слава твая, Беларусь», на словы Генадзя Бураўкіна і «Дагэтуль незабытая», на словы Рыгора Барадуліна — абодвы кампазыцыі сьпевака, і «Ой, ты дзяўчынка мілая», словы Шушкевіча, музыка Ю. Семеякі. На біс прасьпяваў М. Клейнэр песьню сваёй кампазыцыі «Алень», на словы А. Пысіна.

Неспадзеўкай у праграме было выступленьне маладой сьпявачкі зь Менску Алены Заборы, якая нядаўна пераехала настала ў Чыкага. Сьпявачка выканала дзве песьні «Купалінка» і «Каліна», за што публіка узнагародзіла яе шчырымі воплескамі.

Сп. М. Латушкін прачытаў свой верш «Бера ў Бога і Любоў», які быў напісаны ў 1941 годзе ў няспрыяльных абставінах.

Пры канцы а. Я. Сыру сказаў заканчальную малітву, а сп-ня Вера Рамук падзякала прысутным за ушанаваньне нацыянальнай урачыстасьці. Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыральнымі радамі» і "God Bless America" спдаром Хозэ Галярза, закончылася акадэмія.

Усю праграму запісаў на відэастужку сп. Нікадэм Жызьнейўскі.

Варта нагадаць, што ў сувязі з Сакавіковым Сьвятам была наладжаная выстава ў Дэйлі Цэнтры, якая трывала ад 14-га да 25-га сакавіка, а другая выстава ў штатным будынку ад 21-га да 25-га сакавіка. У дзень 25-га сакавіка, пры гарадзкой Управе, быў вывешаны беларускі сьцяг пабач амэрыканскага.

**Др. Вітаўт Рамук**

---

*BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE*
*КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ*

*To*
*THE UNITED NATIONS GENERAL ASSEMBLY*

### A RESOLUTION

concerning
**Acts of genocide against the Belarusan Nation during the Stalinist era.**

Adopted by
**The Solemn Assembly Commemorating, in Toronto, Canada, the 76th Anniversary of the Proclamation of Independence of the Belarusan Democratic Republic on March 25th, 1918 in Miensk, Belarus.**

**WHEREAS**: The United Nations at the Genocide Convention (Resolution 96) of 11 December 1946, has defined genocide as a crime under international law and has committed itself to prevent and punish genocidal acts, and:

**WHEREAS**: The United Nations has the power to investigate and respond to evidence of such acts; and:

**WHEREAS**: In the woods of Kuropaty near Miensk, Belarus, mass graves have been discovered in the course of archeological investigations the findings of which are published in the book "Kuropaty" (Z. Pazniak, M. Kruvalcevic and A. Iou, Belarusian Institute of Arts and Sciences Inc., Miensk, New York 1993) and;

**WHEREAS**: Kuropaty became a place where Stalin's secret police, the NKVD, systematically murdered over 100,000 people between 1937 and 1941;

We, the participants of the Solemn Assembly, resolve:

**TO CONDEMN** the genocidal actions directed against the Belarusan Nation by the Stalinist regime at Kuropaty and other similar sites in Belarus;

**TO REMEMBER** and never to forget our brothers and sisters — the innocent victims of Stalinism;

**TO REQUEST** the United Nations to establish an international commission to investigate the mass burial in Kuropaty and other similar sites in Belarus and respond to the evidence of genocidal acts accordingly.

Submitted by:

**THE BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE**
**TORONTO, CANADA 27 March 1994**

**Dr. Raisa Zuk-Hryskievic,**
*President*

Яго Міласьці Спадару
Інж. Вячку Станкевічу
Галоўнаму Рэдактару
Беларускай радыястанцыі «Свабода»
ў Мюнхене, Нямеччыне

1 травеня 1994 году

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар:

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады й сваго асабіста я маю гонар і вялікую прыемнасьць вітаць Вас і усіх Вашых супрацоўнікаў із саракавымі ўгодкамі існаваньня беларускай радыястанцыі «Свабода».

Мы ў Канадзе добра памятаем пачаткі 50-тых гадоў, калі ў беларускім грамадзтве вяліся гарачыя дыскусіі над тым, ці Рада БНР павінна браць удзел у канфэрэнцыях Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі, дзеля таго, што ён, як з назову яго ўжо відаць, меў русафільскія тэндэнцыі. Тады Амэрыканскі Камітэт на парадку дня ставіў і справу радыяперадачаў для народаў СССР на іхніх мовах. Зразумела, што было-б вялікае няшчасьце, каб ад імя беларусаў праз гэтае радыё прамаўляў хтось іншы. Таму Старшыня Рады БНР інж. Мікола Абрамчык пайшоў на перагаворы з Амэрыканскім Камітэтам і дэлегаваў др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які быў тады ў Канадзе, арганізаваць і весьці беларускі аддзел радыястанцыі «Вызваленьне».

У чацьвер, 20 травеня 1954 году, а 11-й гадзіне дня абылося ўрачыстае адкрыцьцё беларускага аддзелу радыястанцыі «Вызваленьне» у Мюнхене ў прысутнасьці амэрыканскага шэфа гэтага аддзелу сп. Тэрпака, Прэзыдэнта Рады БНР інж. Абрамчыка, прадстаўніка рэдакцыі газэты «Бацькаўшчына» др. Ст. Станкевіча, усіх сяброў беларускай рэдакцыі радыястанцыі, др. Вінцука Жук-Грышкевіча, праф. Ліманоўскага, Сымона Кабыша і Пётры Сыча ды іншых працаўнікоў беларускага аддзелу, як і іншых аддзелаў і працаўнікоў радыястанцыі.

Вечарам гэтага дня адбылася супольная вячэра, ладжаная Амэрыканскім Камітэтам для прадстаўнікаў беларускага аддзелу радыястанцыі й гасьцей, што былі прысутныя на адкрыцьці.

Падчас урачыстага адкрыцьця беларускага аддзелу радыястанцыі адбылася першая інаўгурацыйная беларуская радыяперадача.

Нікога з тых беларусаў, што былі прысутныя на ўрачыстым адкрыцьці беларускага аддзелу радыястанцыі «Вызваленьне», ані дырэктара, ані працаўнікоў беларусакай рэдакцыі няма ўжо ў жывых. А самымі першымі што пачыналі працу над стварэньнем беларускай радыястанцыі «Вызваленьне» былі др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч і Пётра Сыч.

Сяньня ў саракавыя ўгодкі, ім усім, якім заўдзячаем адкрыцьцё беларускай радыястанцыі, належыцца ад нас вялікая падзяка, прызнаньне й пашана.

За сорак год свайго існаваньня беларуская радыястанцыя «Вызваленьне» – «Свабода» адыйграла й адыгрывае калясальную ролю.

І Вам, сяньняшняму галоўнаму рэдактару інж. Вячку Станкевічу й усім супрацоўнікам беларускай сэкцыі радыястанцыі «Свабода» мы перасылаем найлепшыя пажаданьні далейшай плённай працы на карысьць нашай беларускай вызвольнай справы.

Жыве Беларусь!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч,**
**Старшыня Каардынацыйнага**
**Камітэту Беларусаў Канады**

# КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА ЎДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У АРМІІ ГЕН. АНДЭРСА

У цікавым артыкуле, прысьвечаным удзелу беларусаў у бітве пад Монтэ-Касыно («Беларус» № 410) сп. М. Швэдзюк згадвае пра цяжкасьці, на якія натыкаліся беларусы, калі жадалі ўступіць у армію ген. Андэрса ў СССР. Аўтар выказвае пры гэтым меркаваньне, што галоўнай прычынай быў нацыяналізм польскіх афіцэраў, а не — як пра гэта тлумачылі з польскага боку — становішча савецкіх уладаў. Пытаецца ён адначасна, чаму — калі польскія аўтары маюць рацыю — да гэтага часу не апублікавана адпаведных дакумэнтаў.

Вось-жа справа не такая простая. Дакумэнты — калі існуюць — знаходзяцца ў расейскіх архівах, да якіх, праўда, паступова гісторыкам даюць доступ, але не да ўсіх. Мала таго, багацьце гэтых архіваў спрычыняецца да таго, што, можа, яшчэ міне шмат часу, пакуль гэткія дакумэнты будуць знойдзеныя. Польскія крыніцы абмяжоўваліся да гэтага часу ўспамінамі асобаў, якія бралі ўдзел у арміі ген. Андэрса, а гэта значыць, што прадстаўлялі ў пэўнай меры толькі адзін бок у польска-беларускіх дачыненьнях, асабліва ў спрэчках.

Ня так даўно быў аднак апублікаваны дакумэнт, які — як мяркую — можа быць прызнаны за крыніцу свабодную ад падазраньняў у аднабаковасьці. Вось-жа ў варшаўскіх архівах мне трапіўся рапарт выдатнага гэбрайскага журналіста Бэрнарда Сінгера з 23 сакавіка 1942 году, прызначаны для польскага пасольства ў Куйбышаве. У рапарце знаходзім бліжэйшую інфармацыю пра стаўленьне савецкіх уладаў. Як зь яго вынікае, СССР не прызнаваў польскага грамадзянства асобаў няпольскай нацыянальнасьці, якія нарадзіліся на тэрыторыі, што была далучаная да СССР пасьля 17 верасьня 1939 году, і станоўка супраціўіўся, каб іх прыймалі ў польскую армію. У адносінах-жа ды тых, хто быў зацікаўлены ва ўступленьні ў гэтую армію, савецкі бок ствараў уражаньне, што гэта польскія мабілізацыйныя камісіі адмаўляюць па сваёй ініцыятыве. Польскае кіраўніцтва — дзеля зразумелых прычынаў — не магло тады адкрыта вытлумачваць запраўдную сытуацыю. Прычынаю такого захоўваньня савецкіх уладаў была спрэчка пра ўсходнія межы польскае дзяржавы; адмова прызнаваць грамадзянства служыла прыладай націску. Можна таксама меркаваць, што дататковай мэтай было разьдзьмухваньне нацыянальных антаганізмаў паводле старого прынцыпу «падзяляй і пануй». Шмат што пацьвярджае, што мэту гэтую савецкія ўлады дасягнулі.

Яшчэ дзесяць гадоў таму апублікаваньне дакумэнту было немагчымым, бо супярэчыла «польска-савецкай дружбе», дык я пераслаў яго сваім сябрам у Англію, дзе ён быў апублікаваны ў ангельскім перакладзе ў кніжцы Jews in Eastern Poland and the USSR, 1939-46, якую выдалі Норман Дэйвіс і Антоні Палонскі. Кніжка выйшла толькі ў 1991 годзе, калі палітычная сытуацыя ў Польшчы грунтоўна зьмянілася. Маю надзею, што арыгінальны тэкст гэтага дакумэнту будзе цяпер апублікаваны ў адным з польскіх гістарычных часапісаў.

Пра ўдзел беларусаў (а таксама жаўнераў іншых нацыянальнасьцяў) у радох арміі ген. Андэрса ў бітве пад Монтэ-Касына пару разоў польская прэса згадвала. Думаю, аднак, што і надалей веда пра гэта ў нас недастатковая.

**Ежы Тамашэўскі**

**«ЧАРНОБЫЛЬ У БЕЛАРУСІ»**

Бюлетэнь Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі. Лёндан. № 5. Красавік 1994.

Выдадзены на восьмыя ўгодкі чарнобыльскай катастрофы. У нумары зьмешчаныя таксама дадзеныя пра дапамогу, якую даў Камітэт чарнобыльцам на Беларусі ў 1992 і 1993 гг.

# СЬМЕРЦЬ І САЛАЎІ

**П. Сыч**

**(Успаміны афіцэра-беларуса спад Монтэ-Касыно)**



*Сёлета ў траўні адзначаецца 50 гадоў славутай бітвы пад Монтэ-Касыно, аднэй зь вялікшых бітваў Другой Сусьветнай вайны, у якой прыймала удзел на баку Аліянтаў шмат беларусаў.*

*Аўтар успамінаў Пётра Сыч, ва ўступе да апавяданьня, якое пачало друкавацца ў «Бацькаўшчыне» у 1963-м годзе, на 19-я ўгодкі бітвы, а пазьней выдадзенае асобнай кніжкай у 1965-м годзе, вельмі прафэтна зазначыў: «Я меркаваў пісаць гэтую жахлівую бітву ў 50-я ўгодкі, пазьней перадумаў і пералажыў на 25-я. Аднак чую, што да 1969-га году не дацягну хамута існаваньня. Часам выглядае, што магу перакачаваць у лепшы сьвет і перад 20-мі».*

*Пётра Сыч памёр 20-га чэрвеня 1964 году не законыўшы сваіх успамінаў. У пасьмяротным выданьні 1965-га году, др. В. Жук-Грышкевіч, таксама ўдзельнік Італьянскай кампаніі, пастараўся зрабіць заканэньне успамінаў.*

*Вось-жа ў 50-я ўгодкі бітвы пад Монтэ-Касыно, мы палічылі патрэбным ушанаваць і само змаганьне, і ўсіх загінуўшых у гэтым змаганьмі беларусаў і іншых, ды, асабліва, аўтара успамінаў гэтага змаганьня, Пётру Сыча, які памёр якраз 30 гадоў таму.*

*Ніжэй падамо колькі ўрыўкаў з успамінаў.*

Калі мы першы раз убачылі панараму Монтэ Касына, ужо штось ведалі аб ім. Ведалі, што гэта амаль неператомная падвойная абаронная лінія, якая загараджвае дарогу ў Рым праз даліну ракі Ліры, што другой дарогі ў раёне Тырэнскага мора, дзе высадзіліся альянты — няма. Каб узяць Рым, трэба ўзяць перад гэтым Монтэ Касыно. Мы таксама ведалі, што перад намі гэтыя страшныя горы штурмавалі Амэрыканцы, Ангельцы, Новазэляндцы, Французы й Гіндусы.

Першы штурм пачала 5-я амэрыканская армія 2-га студзеня 1944-га году фарсаваньнем ракі Рапідо (шпаркая) й здабываньнем мястэчка Касына у падножжы Монтэ Касына...

На месца 5-й амэрыканскай арміі прыйшла 8-я армія ангельская, у якой знаходзіліся й новазэляндзкія ды гіндускія аддзелы. 15-га лютага Касына атакавалі Ангельцы, фактычна атакавалі толькі частку комплексу абароны — гару 593...

17 лютага пайшлі ў наступ гіндускія аддзелы Райпутана. Гэта былі пераважна Гуркі і йшлі ў атаку з нажамі ў зубах. Адзін батальён выбілі дашчэнту, іншыя мелі жахлівыя страты...

15-га сакавіка М. Касыно заатакавалі гіндуская, ангельская й новазэляндзкая дывізіі. Гэтая трэцяя з чаргі атака на пазыцыі праціўніка была найбольш крывавай. Новазэляндзкая дывізія страціла 55 афіцэраў і 665 жаўнераў. Бывалі выпадкі, што са сьвежага, цэлага батальёну заставаўся адзін зьвяз...

Далейшыя атакі мусілі быць адкладзеныя да лепшых кліматычных умоваў. Арміі мусілі перагрупавацца. Камандзер 8-й ангельскай арміі генэрал Ліс запрапанаваў генэралу Андэрсу, каб 2-гі Корпус здабываў Монтэ Касыно й горы направа ад яго. 2-гі Корпус уваходзіў у склад 8-й ангельскай арміі. Пасьля кароткай развагі, ген. Андэрс згадзіўся. Косьці былі кінутыя, Рубікон пяройдзены. Трэба было толькі здабыць Монтэ Касыно...

*

Маё першае ўражаньне з-пад Монтэ Касыно было лірычнае: разбушаваная італьянская вясна, пунсовыя макі й звар'яцелыя салаўі. Калі батальён, ідучы на пазыцыі, увайшоў у даліну ракі Рапідо, сонца зьніжалася за горы. Батальён затрымаўся ў аліўкавым ляску, бо далей у дзень ня можна — усё бачаць і страляюць. Праўда, страляюць, але пакуль што — наша артылерыя. Грознага манастыра нельга бачыць: ён спавіты хмарай дыму й пылу, — толькі што яго бамбардавала амэрыканская авіяцыя. На руіны ськінулі яшчэ адну, ня ведама каторую з чаргі,

# У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

### *УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ ПРЭЗЫДЭНТА РЫЧАРДА М. НІКСАНА*

Адчыняючы зборку БІНІМу, 23-га красавіка, старшыня д-р Вітаўт Кіпель папрасіў прысутных уставаньнем ушанаваць памяць прэзыдэнта Рычарда Ніксана. Гэтаксама Вітаўт Кіпель падзяліўся жменькай успамінаў аб прэзыдэнту Ніксану ды тагачаснай беларускай палітычнай дзейнасьці. Д-р Кіпель асабліва падкрэсьліў гэткія мамэнты: беларуская палітычная дзейнасьць, асабліва рэспубліканскіх клюбаў, у 60-х–70-х гадох, вызначалася актыўнасьцю. Дзеілі дзесяцьбеларускіх клюбаў, беларусы бывалі часта на нарадах у Белым Доме й Дзяржаўным Дэпартмэнце, ды актыўна бралі ўдзел у выбарчых кампаніях. Спрыяла гэтай актыўнасьці вельмі моцная антыкамуністычная перакананасьць прэзыдэнта Ніксана ды ягонае зацікаўленьне падтрымваць нацыянальныя рэспубліканскія групы.

У часе передвыбарчай кампаніі 1972 году быў створаны «Беларускі Камітэт за перабраньне прэз. Ніксана», старшынём якога быў выбраны Вітаўт Кіпель, а ў камітэт уваходзілі панад 50 беларусаў з дваццацёх штатаў. Зь ініцыятывы камітэту, першы раз у гісторыі перадвыбарчых кампаніяў, былі выдадзеныя спэцыяльныя жэтоны з напісам «Беларусы за прэзыдэнта Ніксана», якія былі распаўсюджаныя па ўсёй краіне. Гэтыя жэтоны, падкрэсьліў В. Кіпель, вельмі дапамаглі пашырэньню інфармацыі пра Беларусь.

Па выбарах 1972 году была афіцыйна створаная й зацьверджаная Рэспубліканскай Партыяй, Фэдэрацыя Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў, першым старшынём якое быў Вітаўт Кіпель, а цяпер фэдэрацыяй кіруе Васіль Мельяновіч. На просьбу Беларускае Рэспубліканскае Фэдэрацыі, пры дапамозе, тады, Кангрэсмэна Эдуарда Дэрвінскага, прэзыдэнт Ніксан наведаў упяршыню ў гісторыі ЗША і




Беларусі, Менск. Дарэчы, як аб захадах наведаньня прэзыдэнтам Ніксанам Менску, як і аб ягоным візыце шырака насьвятлялася ў газэце «Беларус». Гэтаксама, адзначыў др. Кіпель, прадстаўнікі беларусаў сустракаліся з Рычардам Ніксанам, найчасьцей, як зь якім іншым амэрыканскім прэзыдэнтам.

23 красавіка у Фундацыі Крэчэўскага д-р Ян Запруднік чытаў даклад на тэму «Новая англамоўная беларусіка». Дакладчык падкрэсьліў, што ў выніку палітычнага ажыўленьня на Беларусі, на англамоўным кніжным рынку зьявілася некалькі новых працаў пра Беларусь; Беларусьсю пачалі больш цікавіцца ў навучальных установах, ды шырокіх англамоўны друк бадай штадня падае аналізы палітычнага стану Рэспублікі. Нажаль, сказаў дакладчык, «паварот Беларусі ў бок Расеі, змушае захад і Амэрыку пераглядаць і свае дачыненьні да Беларусі».

### *ДАКЛАД СП-НІ АЛЕНЫ ЮРЭВІЧ*

7-га травеня спадарыня Алена Юрэвіч, даўгагадовы навковы супрацоўнік, пэдагог і аўтар шматлікіх кнігаў і падручнікаў з галіны мовазнаўства выступіла з дакладам аб стане мовазнаўчае працы і дасьледваньняў у Рэспубліцы Беларусь.

Спадарыня Юрэвіч прааналізавала навукова-дасьледную працу раньніх беларускіх мовазнаўцаў як Лёсіка, Некрашэвіча, Байкова, Бузука, ды іншых раўнуючы вынікі працы таго пэрыяду да працы лінгвістычна-дыялектальгічнас ў Беларусі пэрыяду па другой сусьветнай вайне. Дакладчыца, адзначаючы нязвычайна няспрыяльныя ўмовы для сапраўднас навуковас працы ў гадох 50-70-х, канстатавала, што тым ня менш у галіне мовазнаўства зроблсна вельмі шмат. Сп-ня А. Юрэвіч, гэтаксама падкрасьляла вялікі уплыў на разьвіцьцё мовазнаўчага дасьледніцтва ў Беларусі Фёдара Янкоўскага, зь якім дакладчыца супрацоўнічала даўгі час.

Гаварачы аб станс вяртаньня беларускас мовы, сп-ня Юрэвіч сказала, што яс абнадзейвас маладос пакаленьнс, алс без укараненьня закону аб дзяржаўнасьці беларускас мовы справа будзе таптацца на мссцы. Тым ня мсніш, выказалася сп-ня Юрэвіч, маладая, новая Беларусь, будзе жыць і працаваць зь беларускай мовай. Вядучы зборку, В. Кіпель, гэтак і шматлікія выказваньі з аўдыторыі Зоры Кіпель, Яна Запрудніка, Антона Шукслойця, ды іншых — глыбока ацанілі і шчыра падзякавалі дакладчыцы за надзвычайна інфарматыўны, цікавы ды высокопарфэсыйны даклад.

## ШЧЫРЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ

ўдзельнікам адзначэньня 75-і годзьдзя Беларускай Віленскай Гімназіі, якое адбудецца сёлета ў Вільні 21-22 травеня, шлюць газэта Беларус, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ды шырэйшае беларуска-амэрыканскае грамадзтва.

*Нью-Ёрк, 15 травеня 1994 г.*

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ Ў ЗША

50 год таму назад, у пачатку 1944 году ў Нью-Ёрку было заснаванае Менскае Зямляцтва, мэтай якога было дапамагаць суродзічам на бацькаўшчыне, якая вызвалялася з-пад нямецкай акупацыі.

*З жыцьця ў Рычманд Гілл*

## ПАМЯЦІ БЫЛОГА ПРЭЗЫДЭНТА НІКСАНА

У нядзелю 24-га красавіка сёлета, беларускі асяродак у Річманд Гілл, у Нью-Ёрку, ушанаваў памяць адышоўшага прэзыдэнта Рычарда Мілгаўза Ніксана (9.І.1913 – 22.IV.1994). У Беларускім Грамадзкім Цэнтры старшыня царкоўнай управы сп. К. Мярляк расказаў прысутным аб заслугах былого прэзыдэнта Ніксана для нашых арганізацыяў і пашырэньня беларускага імя ў дзяржаўнай палітыцы ЗША.

Першае спатканьнс із (тады яшчэ) віцэ-прэзыдэнтам Ніксанам было ў 1958 годзе, калі архіяпіскап Васіль і сп. К. Мярляк наведалі Амэрыканскі Сэнат з малітваю. Сп. Мярляк асьветліў час, калі сп. Ніксан займаў становішча віцэ-прэзыдэнта і прэзыдэнта, як час добрых адносінаў беларускіх арганізацыяў з Вашынгтонам, што дазволіла беларусам эмігрантам выйсьці ў шырокі сьвет, а слова Беларусь пашырыць у амэрыканскіх дзяржаўных колах.

У час, калі мы будавалі царкву ў Рычманд Гілл, прэзыдэнт Ніксан пажадаў нам посьпсхаў і спэцыяльна для нашага прыходу парараваў свой партрэт, які й сяньня займае пачэснае мейсца ў нашай залі.

Сп. Мяркяк, жадаючы блажэнства душы прэзыдэнта Ніксана, папрасіў прысутных запяяць яму «Вечную памяць».

**Васіль Шчэцька**

---

порцыю — некалькі сотняў тонаў зялеза.

Мы заляглі паміж аліўкамі. Палкоўнік склікае афіцэраў. Ён ужо бачыў аб'ект нашага наступу й азнаямляе нас з палажэньнем. Праз біноклі вочы ўпіваюцца ў панараму. Маем уражаньне цыркова актара, які ў пустым цырку з апошняга месца глядзіць на пустую арэну, на якой ён пазьней будзе змагацца з тыграмі...

Колькі-ж тут макаў! Навет із шчыліны голай скалы вырываюцца вялікія, чырвоныя краскі. Хочуць жыць, цьвісьці, пладзіць насеньне, цешыцца вясной, сонцам, начной расой і каскадамі салаўінай аркестры.

А колькі-ж тут салаўёў!..

*

Прабачце за дыгрэсію. Вяртаймася да тэмы...

Каля поўначы ў пералівы салаўёў уварваўся сьвісток палкоўніка. Сьвісток быў гвалтоўны, што навет салаўі змоўклі на хвіліну. Для нас гэта азначала, што мы мусім уставаць і йсьці на пазыцыі. Усе з гэтым пагадзіліся за выняткам салаўёў. Праз пару хвілінаў салаўі засьвісталі, але ўжо злосна. Што за паршыўцы перашкаджаюць ім цешыцца вясной, сьпевам і каханьнем?..

Пайшлі. Ішлі сыстэмай супрацьлятунскага парадку: адзін ад другога на дзесяць мэтраў. Выврваліся на дарогу, аб якой трэба нешта сказаць. Гэта калісь была сьцежка для мулоў.

Нашыя папярэднікі зрабілі спробы зрабіць з гэтай сьцежкі дарогу. Але, калі возьмем на ўвагу, што ўся гэтая плошча дзень і ноч была пад абсэрвацыяй і пад абстрэлам — Амэрыканцы й Ангельцы крышку пашырылі гэтую сьцежку й назвалі яе Кавэдыш Роўд і гэтак пакінулі. У кажным выпадку празь яе мог прапхнуцца джып і матацыкль. Але вось прыйшлі беларускія, украінскія й польскія дзядзкія-сапэры. Паківалі галовамі, падумалі й вырашылі, што Кавэндыш Роўд — нікудышняя.

Сапэры — гэта мурашкі вайны. Іх недацэньваюць. Ляўры зьбіраюць кавалерыстыя, артылерыя, пехата, а — перадусім — генэралы. А куды-б усе гэтыя «героі» дайшлі без сапэраў?

І вось мурашкі пачалі працаваць...

Дарога сапэраў (як мы яе будземназываць) у гэты час была вольная. Мы пайшлі. І вось тут першае знаёмства са сьмерцяй. Праціўнік, як я прыгадаў, быў прыстраляны. Усе коды, каардынаты былі запісаныя й праверaныя. Мы йшлі ціхенька, толькі паскуды салаўі сьвісталі нам на злосьць.

Раптам сьвіст, але не салаўіны. Дзікі, пагрозьлівы...

«Кладзіся!» — крыкнуў нейкі афіцэр. Позна.

Бах! бах! бах! — Тры гранаты цяжкой артылерыі. Валодзька Мацкевіч — цікавы, як выглядае жыцьцё й сьмерць. Ён, як кажны смаркач, прабуе гаварыць басам, прабуе курыць (хаця рыгае), прабуе піць, а навет раз прызнаўся, што ён хоча сіньёрыну. Валодзька паляцеў наперад, дзе разарваліся гранаты. Празь некалькі хвілін ён вярнуўся й, ужо ня басам, піскнуў «двух забітых, пяць цяжка параненых».

У гэты мамэнт Валодзька, здаецца, ня думаў стацца Напалеонам. Ён, як слабае дзіцё схапіўся за мае порткі і не адрываўся. Нажаль мяне паклікалі наперад. Тады смаркач схапіўся за рукаво дзядзькі Піліпа й ад гэтага рукава ніякая сіла не магла яго адарваць. Абодва аблілі збочча праклятай гары сваёй крывёй...

Ззаду пачуўся гук самалётаў. Гук набліжаецца. У мяне ёкнула сэрца: амэрыканскія самалёты й ня ведама, што яны адкоцяць. Я прыпадкова быў сьветкам, як амэрыканскія самалёты бамбардавалі штаб саюзнай Восьмай ангельскай арміі. Гэта было прыблізна, паводля мапы, дваццаць кілямэтраў ад Монтэ Касына. Мястэчка называлася Вэнафро. Я вёў калёну самаходаў з амуніцыяй. Паводля майго разьліку, маёй мапы, здаровай лёгікі й запраўднасьці — перада мной было Вэнафро. Аднак амэрыканскія бойсы падумалі інакш. І вось пачуўся гук самалётаў. Мы едзем сьмела: гэта-ж нашыя. З радасьцяй лічым самолёты. Аптымістыя налічылі іх дзевяноста дзевяць (ляцелі тройкамі). Пазьней выясьнілася, што іх было толькі трыццаць. Бамбавозы, аб'ючаныя бомбамі, цяжкія, як каровы. Таму навокал іх лятали пастухі — зьнішчальнікі. Мы вітаем іх воплесками (бурнымі). А гэтых трыццаць бамбавозаў равуць, як каровы і ... зьніжаюцца — падходзяць да мэты... І, равучы, як каровы, яны, як каровы выпаражніліся замест на Касыно — на Вэнафро. Багатэля — дваццаць кілямэтраў розьніцы. Замест нямецкага штабу, яны збамбардавалі штаб Восьмай ангельскай арміі генэрала Ліса. Сам-жа генэрал Ліс, ня глезячы на ягоную тушу й гады, падскакваючы, як вавёрка пабег у бомбасховішча. Вынік памылкі — таксама багатэля: васемнаццаць забітых Ангельцаў. Італьянцаў і мулаў ніхто ня лічыў.

Таму, лежачы ў яры, я крышку баяўся, ці гэтыя амэрыканскія вясёлыя бойсы ня ссыпяць порцыю бомбаў на

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ЛЕКЦЫІ ПРА БЕЛАРУСЬ



*Фрагмэнт выстаўкі беларускага народнага мастацтва*

21-га красавіка сёлета, у сярэдняй школе ў Гілсайд, у штаце Нью-Джэрзі, у рамках праграмы Дзень Разнароднасьці (Hillside Diversity Day), адбыліся лекцыі пра Беларусь і беларускую культуру.

Ірэна Дутко, дачушка якой, Тамара, вычыцца ў гэтай школе, была запрошаная прыняць удзел у праграме і даць школьнікам інфармацыю пра Беларусь.

Спадарыні Ірэна Дутко, Надзя Кудасава, Ліза Літаровіч і Натальля Русак мелі пяць 45-50-хвілінных лекцыяў для вучняў 7-ых клясаў школы. Яны падрыхтавалі цікавую і інфармацыйную праграму і наладзілі прыгожую выставу беларускага народнага мастацтва, фатаграфіяў, плякатаў і літаратуры. Была выстаўленая й вялікая карта Беларусі.

Сп-ня Дутко найперш паінфармавла вучняў пра Беларусь, яе гэаграфічнае, палітычнае й эканамічнае палажэньне, пра гісторыю, мову, школы, рэлігію, пра Чарнобыльскую бяду на Беларусі.

Надзя Кудасава й Ліза Літаровіч расказалі пра беларускую культуру й народнае мастацтва. Надзя Кудасава паказала й практычна як прадуцца ніткі зь ільну, а Ліза Літаровіч перакладала імёны вучняў на беларускую мову.

Ната Русак расказала вучням пра Беларусь на сваім асабістым вопыце, і на вопыце сваёй сям'і. Яна гэтаксама падзялілася ўражаньнямі ад сваёй паездкі на Беларусь мінулым летам, аб жыцьці людзей і іхных зацікаўленьнях, ды аб прыгожай прыродзе Беларусі. Шчырыя апавяданьні маладой амэрыканскай адвакаткі беларускага паходжаньня былі добра ўспрынятыя вучнямі.

Цэлая праграма мела вялікі посьпех, і амэрыканскія вучні, якія можа раней і ня ведалі нічога пра Беларусь, атрымалі цяпер цікавую й зьмястоўную інфармацыю, якую — трэба спадзявацца — некалі будуць выкарыстоўваць і пашыраць.

Ірэна Дутко падаравала школьнай бібліятэцы шмат кніжак пра Беларусь.

### *АДЗНАЧЭНЬНЕ ПАЎСТАНЬНЯ 1794-ГА ГОДУ*

16-га красавіка сёлета ў Менску адбылася Міжнародная Навуковая Акадэмія «200 гадоў Вызвольнага Паўстаньня 1794 г.»

На канфэрэнцыі прыймалі ўдзел выдатныя беларускія гісторыкі: Уладзімір Емяльянчык, Анатоль Грышкевіч, Язэп Юха, Валянцін Грышкевіч, Вячаслаў Шалькевіч, Адам Мальдзіс і іншыя.

* * *

У выдавецтве Міколы Прускага выйшлі паштовыя канвэрты ў адзначэньне Паўстаньня 1794 году на Беларусі. Малюнак, адбіты на канвэртах, зроблены беларускім мастаком Міколам Купава.






UPRISING FOR INDEPENDENCE IN BELARUS 1794

### «ЗВАЖАЙ», Нр.3 (75), чэрвень 1994

У нумары: Ул. Арлоў — Дзень волі ў Лёндане; Э. Марголіс — Угодкі перамогі і памінкі; М. Каралёў — З раскіданых гнёздаў... шлях на выгнаньне; А. Акула — Каму патрэбна такая навуковасьць? (пра «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі»); Г. Сагановіч — Земскае войска Беларуска-Літоўскай Дзяржавы ў XVI-XVII стст. Нумар ілюстраваны.

## ІВОНКА ШЫМАНЕЦ СУРВІЛЛА – УДЗЕЛ У ВЫСТАЎЦЫ

Прыемна было заўважыць, што нашыя мастакі апошнім часам актывізаваліся. Газэта «Беларус» у сваім красавіковым нумары паведаміла пра 21-ю штогадовую мастацкую выстаўку беларускіх мастакоў і умельцаў у Саўт-Рывэры, у штаце Нью-Джэрзі, а таксама пра выстаўкі мастачак Ст. Тамары ў Валлей Сіты, у штаце Норт Дакота ды Галіны Русак у Галерэі SOHO ў Нью-Ёрку.

А вось і яшчэ адна — у Аттаве. Галярэя Le Corrid Art de L'Ouest запрасіла восем прафэсыйных мастакоў (так сказана на запросінах на выстаўку) Аттавы і Аттаўскага рэгіёну паказаць свае творы. Сярод запрошаных — беларуска Інонка Шыманец Сурвілла. Яна выставіла шэсьць сваіх твораў, сярод якіх алей, дрэварыт, каляж "carré conté" і алавік, усе зьвязаныя зь беларускай тэматыкай.

Выстаўка адбылася ў днёх ад 4-га да 7-га траўня сёлета. Галярэя ладзіць падобныя выстаўкі (з запрашанымі мастакамі) два разы на год.

**Я.В.**

## «НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ПАДЗЕІ І ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСІ»

На гэткую тэму др. Янка Запруднік прачытыў даклад на канфэрэнцыі, якая адбылася 16-га красавіка сёлета ў Агаеўскім Штатавым Унівэрсытэце ў гор. Калюмбусе, сталіцы штату Агаё. На канфэрэнцыі былі праведзеныя тры сэсіі, прысьвечаныя пытаньням Прыбалтыкі, Закаўказьзя ды Ўкраіне, Беларусі і Малдове. Слухачамі дакладаў — больш за сто асобаў — былі выкладчыкі, дасьледнікі і студэнты розных ВНУ Амэрыкі.

Наступнага дня, у нядзелю, сп. Запруднік наведаў на запросіны аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня беларускую грамаду ў Кліўлендзе, дзе выступіў зь інфармацыяй пра апошнія падзеі на Беларусі.

---

нас. Аднак абыйшлося. Касяк самалётаў разьдзяліўся: палавіна павярнула ўлева на манастыр, другая — на Монтэ Кайро...

З абодвух бакоў зрэдка страляе артылерыя. Бачна, толькі таму, каб праціўнік не забыўся, што вайна. Людзі ляжаць адраньцьвелыя. Раптам сьвісток. Прыходзіць палкоўнік — сівы, страляны на ўсіх франтох усіх войнаў. Зь ягонай міны бачым, што ён мае нешта важнае сказаць. Палкоўнік чытае ўрачысты зварот Андэрса, які пачынаўся: «Жаўнеры, хай леў жыве ў вашых сэрцах!»...

Пасьля гэтага — другі зварот — дзядзькі Нікадэма. Гэтак мы называлі камандзера нашай дывізіі («Крэсовай»), вусатага генэрала Суліка, які, таксама не хацеў быць, маўляў, «ад мачыхі» — і адчыкрыжыў патрыятычную прамову. Змучаныя, сасмажаныя сонцам жаўнеры слухалі патрыятычных, шаблённых зваротаў даволі абыякава. Затое ўсе заварушыліся, калі палкоўнік сказаў, што СЯНЬНЯ...

Палкоўнік склікаў афіцэраў. Гаварыў коратка. Сяньня (11-га травеня) а дваццаць трэйцяй гадзіне пачнецца акцыя, якая паводля штабовага коду называецца «гэнкэр». Гэта па-ангельску — крык дзікіх гусей, якія вяртаюцца з выраю. Ці гэты назоў быў прыпадковы, ці можа нехта ў штабе падумаў пра нас, якія праз тры кантынэнты, праз дзесяткі краінаў, ішлі й марылі, што вернемся з выраю ў свае гнёзды — гэтага я не даведаўся...

*

Да «гэнкэру» яшчэ некалькі гадзін.

Сяджу пад скалой і ў думках перачытваю гісторыю свайго змарнаванага жыцьця...

Тое, што пачалося ў гэты мамэнт, а 11-й гадзіне 11-га травеня, ніяк ня можна назваць «гэнкэрам» — крыкам дзікіх гусей з выраю — мяккім, сумным, лагодным, настальгічным.

Грымнула найцяжэйшая гармата. Гэта быў сыгнал. І, як кажа адзін наш мовавед «ударыла й пашла маква» ... За гэтай гарматай зараўло больш за тысячу іншых: цяжкія, лёгкія, супрацьпанцырныя, супрацьлятунскія, мінамёты цяжкія, мінамёты лёгкія. Усё біла па пазыцыях праціўніка: далёкабойныя гарматы білі па далёкіх становішчах артылерыі, якія знаходзіліся 30 кілямэтраў ад пляцу бою, іншыя вальцавалі ўвесь пляц, на які мы мелі наступаць. Зямля дрыжэла пад нагамі, земля гарэла, а ў паветры вылі мільёны д'яблаў...

Гарматы малацілі камяністыя горы дакладна, колькі прадбачвалася паводле пляну. Пасьля перанесьлі агонь на далейшыя аб'екты.

Немцы адбрэхваліся слаба. Ашчаджалі амуніцыю, якая ім пазьней прыдалася. Яны толькі фарамі й ракетамі асьвятлялі поле, што яшчэ павялічала макабрычнасьць відовішча.

Але затое, калі нашая артылерыя перанесла агонь далей наперад — слова ўзяла нямецкая артылерыя й мінамёты...

Абедзьве арміі: 5-я амэрыканская й 8-я ангельская ўлезьлі ў даліну ракі Ліры й Рапідо не здабыўшы гораў справа. А як раз там былі становішчы нямецкай артылерыі, якая біла нас ззаду. Найгорш нам дакучалі гарматы з Бэльмонтэ, Атінэ й Цыфалько, якія былі якраз ззаду. Стваралася дэпрысыйнае ўражаньне, што нас выбівае нашая артылерыя. Выявілася, што не. Тут наша артылерыя працавала прэцызыйна. Найгоршыя былі нямецкія гарматы на танках. Яны нас малацілі з аднага месца, іх засеклі, г.зн. выкрылі. Туды йшла навала нашай артылерыі, ляцелі самалёты, але іх там ужо ня было: яны пераехалі кілямэтар далей і схаваліся ў кусты...

Гэтак было 13-га травеня й трывала да 17-га...

*

У батальёне ўжо ўсе ведалі, што заўтра, 17-га травеня, штурм. Сівы палкоўнік і пара афіцэраў уважна глядзелі ў твары жаўнераў. Але жаўнеры прынялі гэтую вестку з спакойнай дэтэрмінацыяй. Кажны браў якнайбольшую колькасьць амуніцыі й ручных гранатаў, спраўджаў свой «томпсан» ці снайпэрскую люнэту ды іншыя сьмерцяносныя прылады. Тады сівы палкоўнік першы раз за некалькі дзён усьміхнуўся: Значыцца пойдуць...

І пайшлі...

*(Заканчэньне)*

*Уначы з 17-га на 18-га травеня, Немцы вывялі свае галоўныя сілы спад Монтэ Касыно, пакідаючы толькі невялікія аддзелы ў бункерах, дзеля прыкрыцьця адступленьня. Яны так сьпяшыліся, што пакінулі сваіх параненых. З манастыра нямецкія аддзелы былі эвакуаваны поўнасьцю.*

*Раніцай 18-га травеня, аддзелы 2-га корпусу здабывалі паасобныя ўзгоркі, не спатыкаючы ўжо вялікага супраціву нямецкай пяхоты...*

*На працягу наступных некалькіх дзён 2-гі корпус заняў гару Монтэ Кайро й мястэчка П'едымонтэ. Гэтым і была закончаная фаза баёў пад Монтэ Касыно...*

*Апошнюю фазу баёў пад Монтэ Касыно — пасьля заняцьця Монтэ Касыно — аўтар не пасьпеў апісаць. Але апісаў самае галоўнае — баі за здабыцьцё Монтэ Касына, — самыя жорсткія баі з усей італьняскай кампаніі.*

*В. Жук*

Адданага беларускага патрыёта, шчырага прыяцеля, філянтропа, актыўнага кіраўніка дзесяткоў беларускіх рэлігійных і сьвецкіх арганізацыяў ды дзейнага супрацоўніка нашай газэты

**КАСТУСЯ КАЛОШУ**

вітаем з круглым юбілеем і жадаем шмат удачаў у будучай дзейнасьці.

*Рэдакцыя газэты Беларус, Галоўная Управа БАЗА, Управа БІНІМу*

***КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ***
— усе арганізацыі – сябры яго —
вітаюць

**СПАДАРА МІКОЛУ ГАНЬКА**

шматгадовага старшыню Згуртаваньня Беларусаў Канады з 70-мі ўгодкамі жыцьця, жадаюць яму добрага здароўя й доўгага, плённага на карысьць нашай вызвольнай справы, жыцьця. Сто Год!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня**

# НА КАНФЭРЭНЦЫІ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ У АТТАВЕ

Сёлета ад 26-га красавіка да 6-га траўня ў Аттаве адбывалася «Сьвята кнігі даліны Аттавы», арганізаванае урадам і прыватнымі арганізацыямі, зацікаўленымі літаратурай. 2-га траўня ў Нацыянальную Бібліятэку Канадыйская Рада Этнічных Культураў запрасіла пісьменьнікаў і паэтаў на канфэрэнцыю, якой далі загаловак «Этнічныя Сувязі». Запрошаныя былі літаратары, што твораць у бальшыні на мовах апроч англійскай і францускай.

Мне ніколі не даводзілася быць на ніякай канфэрэнцыі літаратараў і тут апынуўся перад пытаньнем: ехаць, ці не? Ня вельмі ясна было што гэткая канфэрэнцыя, куды зьбяруцца прадстаўнікі каля 30-ёх ці больш розных этнічных групаў ды можа столькі-ж моваў і культураў, мае асягнуць. Каардынатар канфэрэнцыі, сп. Ільля Чычвак, ведамы празаік, Славак, два разы гутарыў са мной тэлефанічна й падчырківаў важнасьць канфэрэнцыі. Каб узяць удзел там, вымагалася няшмат: выслаць ім апублікаваныя тры творы, кароткую інфармацыю пра сябе, здымку ды рэцэнзіі пра свае выданыя творы.

У Вялікодную нядзелю 1-га траўня, пасьля шасьцігадзіннага падарожжа аўтабусам, я апынуўся ў Аттаве. Над аттаўскай далінай роўна навісьлі цяжкія валавяныя хмары. Гораду гэтага даўно я не бачыў. Найбольш ведымы ён мне быў з розных дэманстрацыяў за вызваленьне паняволеных Маскоўшчынай народаў перад тутэйшай савецкай амбасадай.

Вечар той нядзельны, дзякуючы гасьцінным Сурвіллам, заслужаным у сваёй помачы дзеткам, ахвярам Чарнобыля й беларускай грамадзка-культурнай працы ў Канадзе, прайшоў за вячэрай у гутарках у іхнай хаце. Дзякую ім за гэта.

У панядзелак 2-га траўня нас вітала Канадыйская Нацыянальная Бібліятэка. У абшырнай залі, на сталох, пад шклом, прысутныя аўтары рэпрэзэнтавалі сябе творамі, здымкамі, ды рэцэнзіямі. Агульна гаворачы, сабралася паважжная група літаратараў.

Падчас праграмных дыскусіяў, у «робачых групах» выявілася запраўдная мэта канфэрэнцыі: здабыць як найбольш фінансавай помачы ад ураду. Літаратар зь Індыі, што піша на мове урду, абарыгенка з правінцыі Саскачэвану ў Канадзе, якая прадстаўляе «некалькі нацыяў», мовы якіх вось-вось без падтрымкі прападуць назаўсёды, пісьменьнік з лацінскай Амэрыкі, што піша па-гішпанску, Нэгар-прафэсар канадыйскага унівэрсытэту, які дбае пра тое, каб назаўсёды зьнік расізм, што пагражае чорным і каб узбуйнела творчасьць антырасізму, і іншыя — вось прадстаўнікі літаратурнай Канады. Шмат увагі прысьвячаецца й канфлікту розных гэтых літаратараў, якім не ўдалося наладзіць добрыя зносіны са Згуртаваньнем Пісьменьнікаў Канады. Там, у Згуртаваньні, згодна іх, пераважна англамоўныя і францускамоўныя гаспадары... Мне ўдалося паінфармаваць гэную паважную канфэрэнцыю пра Беларусь і пра сваю творчасьць.

Прынялі рэзалюцыю, дзе дамагаліся ад ураду большай помачы для рознамоўных літаратараў, перакладу іхных твораў на галоўную, пераважна ангельскую мову.

Ці з таго, фінансава збанкрутаванага ўраду што капне ім на помач? Мяркую, што не.

**К. Акула**

**УВАГА! ПРАЧЫТАЙ І ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ!**

Ствараецца першы ў гісторыі даведнік:
«Беларуская эміграцыя. Тэлефоны, насылы (адрасы), факсы»

Дзе-б Вы ні жылі: у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, ці Нямеччыне, запоўніце пададзеную ніжэй форму, вышліце яе па насылу: *Siarzuk Sokalaw-Vojush*
*193-05 Keno Avenue*
*Holliswood, New York 11423 U.S.A.*
і Вашае імя зьявіцца на старонках нашага даведніка.

Форму запаўняйце калі ласка *толькі* друкаванымі літарамі.

Прозьвішча і імя ____________________

Насыл/адрас/ ____________________

Тэлефон ______________ хатні ______________ працоўны

Факс ____________________

Іншыя зьвесткі (напр. прафесыя, імёны іншых асобаў, што жывуць з Вамі, Бізнэс насыл і г.д.) ____________________

____________________

____________________

Асобы, якія захочуць зьмясьціць у даведніку іншыя зьвесткі пра сябе, альбо даць рэклямныя аб'явы, мусяць папярэдне зьвярнуцца да нас па тэлефону: **718-465-5247**

## УВАГА!

Бюро Кансулярных Справаў пры Дзяржаўным Дэпартамэнце Амэрыкі у гэтым годзе ўпяршыню дае магчымасьць удзельнічаць у лятарэі на зялёную картку (Green Card) усім жыхаром краінаў былога СССР. Для Эўропы выдзелена 23 549 «грын карткаў».

Асобы, якія выйграюць лятарэю і члены іхных сем'яў змогуць пераехаць у ЗША, альбо свабодна наведваць ЗША. Таксама дазволена удзельнічаць у лятарэі асобам, якія знаходзяцца ў ЗША нелегальна.

**Беларусы! Выкарыстайце гэты унікальны шанц для сваіх сваякоў і сяброў!**

Мы дапаможам дакладна аформіць вашыя заявы і адасласць іх своечасова ў U.S. Bureau of Consular Affairs.

Неабходныя дадзеныя ўдзельніка:

1. Прозьвішча, Імя, Імя на бацьку
2. Дата (дзень, месяц, год) і Месца нараджэньня (горад, вобласьць, краіна)
3. Імёны, Даты і Месцы нарожаньня мужа (жонкі) і дзяцей да 21-га году
4. Паштовы адрас. Тэлефон (калі ёсьць)
5. Родная краіна (калі розьніцца ад краіны нараджэньня)

Мужу й жонцы дазволена ўдзельнічаць у лятарэі асобна.

Вашыя дадзеныя разам з чэкам ці Money-Orders на $12.99 выстаўляйце на Magalif International і адпраўце не пазьней як 20-га чэрвеня 1994 г. на адрас:

Magalif International, Inc.
201 Old Bridge Turnpike
East Brunswick. N.J. 08816
Tel./Fax: (908) O.K.1-V.I.S.A. (651-8472)

# БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ЗЬ ВІЗЫТАЙ У БЭЛЬГІІ

11-га красавіка сёлета прыбыла ў Бруксэлю, у Арганізацыю Паўночна-Атлянтыцкага Дагавору (НАТО) беларуская дэлегацыя ў складзе 7 асобаў, пад кіраўніцтвам спадара Майсея Анатоля, прэзыдэнта Цэнтру Стратэгічнай Ініцыятывы «Усход-Захад», Беларусь. Дэлегацыя складалася з трох народных дэпутатаў: Грыбаноў Уладзімір, Новік Уладзімер і Прывалаў Леанід; з двух журналістаў: Грышан Ігар, заступнік Рэдактара «Советская Белоруссь» і Сенкевіч Ігар, журналіст газэты «Звязда».

Аўтар гэтых радкоў і сп. А. Арэшка мелі нагоду спатыкацца з адным з дэлегатаў, сп. Уладзімерам Новікам, народным дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, які ў некалькіх словах расказаў аб вышэйуспомненай візыце.

Двухдзённы пабыт, які уключыў і візыту у Вышэйшую Галоўную кватэру Злучаных Сілаў Эўропы у Монсе (Бэльгія), з даволі нагружанаю праграмаю, меў у васноўным на мэце абмяркаваньне новае стратэгіі для ўтрыманьня бясьпекі ў Эўропе й партнёрства для міру.

У вагульнай дыскусіі, прадстаўнікі НАТО й дэлегаты Беларусі выразілі ўзаемную зацікаўленасьць аб разпрацоўцы новае бясьпекі ў Эўропе. У сваім выступленьні спадар Новік заявіў, што паводле яго Беларусь у бліжайшым часе далучыцца да НАТО ў партнёрстве для міру.

Апрача спатканьня із Дэпутатам Новікам мы мелі нагоду спаткаць двух беларускіх «бізнэсмэнаў»: сп.сп. Вацлава Багдановіча, прэзыдэнта Выдавецкай Кампаніі «Беларусь-Тэхналёгія» й Пятра Буйніцкага, дырэктара «КС», прыватная кампанія. Яны затрымаліся ў Бруксэлі каб разам із сп. Новікам паехаць у Парыж для правядзеньня перамоваў у галіне гуманітарна-палітычных кантактаў паміж Беларусьсю й Францыяй.

Спадзяёмся яшчэ спаткацца зь імі перад іхным паваротам у Беларусь і даведацца больш аб іхніх плянах і амбіцыях і, асабліва, аб выніках іхняга пабыту ў францускай сталіцы.

**Янка Жучка**

## СЬВ. ПАМЯЦІ МАРЫНА ЛУКАШЭВІЧ



Нарадзілася 7-га ліпеня 1911 г. у вёсцы Красная Воля каля Лунінца, на Палесьсі. Паходзіла з роду Груцькоў. Пасьля вайны, зь Нямеччыны пераехалі ў Амэрыку, а ў 1951 годзе настала затрымаліся ў Кліўлендзе, Огаё. Пакойная была актыўнай у беларускай калёніі: належыла да Аддзелу БАЗА, Жаночай Арганізацыі, Грамадзкага Цэнтру Полацку, наведвала царкву Жыровіцкае Божае Маці аж да самага канца.

Жыцьцё яе было нешчасьлівае й сумнае. У 1978 годзе скалечыла сабе нагу й мусіла хадзіць у пратэзе. Затым у 1980 г. памёр яе муж Янка, у 1990 г. — сын Віктар, а у 1992 г., сын Янка. Асталася з сям'і адна й цэлы час мучылася з нагою. Аднак яна не здавалася й да апошняга часу давала сабе рады й наведвала царкву.

Пакойная памерла 8-га красавіка 1994 г. раптоўна ад закупоркі крывяных жылаў, аставіўшы нявестку Олю і унукаў Віктара, Колю й Стэвэна. Пахаваная на Рывэрсайд магільніку ў беларускай сэкцыі. Сябры калёніі вялікай прысутнасьцю ўшанавалі яе адыход, як у царкве, так і на магільніку.

Сьпі спакойна, дарагая наша сяброўка, яднайся з сваею сям'ёю ў царстве нябесным: Хай вам усім сьняцца прыгожыя краявіды Палесься ў Беларусі.

**К. Калоша**

## СЬВ. ПАМЯЦІ МАРЫЯ МІХАЛЬЧЫК



Нарадзілася 30-га ліпеня 1913 г. у вёсцы Залесьсе каля Жыровіцаў з роду Валюкевічаў. Пасьля вайны прыехала ў Амэрыку удавою з двума падрослымі дзяцьмі Алексам і Оляю. У 1953 годзе пераехала ў Кліўленд, Огаё, дзе далучылася да беларускае калёніі разам з бацькамі й братамі. Працавала цяжка, але узгадавала дзяцей, уладзілася добра, дачакалася сынавых трох унукаў й была шчасьлівая. Прымала ўдзел у жыцьці беларускае калёніі, а найбольш праявіла адданасьць царкве, наведваючы нядзельныя й будзённыя сьвяты праз цэлы год. Аднак спаткала яе няшчасьце. У 1991 г. раптоўна памёр яе любімы сын Алекс ад ракавага захвореньня. Гэта шмат уплыло на яе здароўе — моцна перажывала, пачала слабець. У канцы занядужала й памерла раптоўна 26-га красавіка 1994 г.

Пакойная аааставіла дачку Олю, трох унукаў Алекса, Джана, Джэфа і братоў Колю, Янку, Васіля й Александра. Пахаваная на Рывэрсайд магількіну у беларускай сэкцыі. Сябры калёніі добра ўшанавалі Яе адыход сваімі малітвамі і ўвагаю.

Сьпі спакойна, дарагая наша сяброўка й парахвіянка, хай Табе будзе лёгкая амэрыканская зямелька, яднайся з сынам і бацькамі ў царстве нябесным.

**К. Калоша**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АНТОН ШАСТАК



Нарадзіўся 16-га лютага 1910 г. каля Слоніма. Пасьля вайны, зь Нямеччыны пераехаў у Амэрыку ў 1951 г. і пасяліўся ў горадзе Кліўлендзе, Огаё, дзе адразу далучыўся да беларускае калёніі. У 1952 годзе ажаніўся з Ідай Де Марко, італьянскага паходжаньня, і меў дзьве дачкі. Быў добрым бацькам, дбаў аб сям'і. Быў актыўным у арганізацыйным жыцьці беларускае калёніі. Быў вельмі набожны і найбольш праявіў сваю актыўнасьць у парахвіі беларускай праваслаўнай царквы Жыровіцкае Божае Маці, як старшыня парахвіяльнае рады, скрбнік і стараста. Прыблізна год назад меў строк, і ў яго адняліся ногі й ня мог хадзіць, але гутарыў нармальна й быў пры памяці да канца. Памёр раптоўна ў ночы 19-га красавіка 1994 г.

Аставіў у смутку жонку Іду, дочкі Марыю й Кляру і сяброў калёніі, якія ўшанавалі Яго адыход сваёю прысутнасьцю.

Сьпі спакойна, сябра, на амэрыканскай зямлі. Хай Табе сьняцца прыгожыя краявіды Слонімшчыны ў Беларусі.

**К. Калоша**

## Паважаныя суайчыннікі!

23-га чэрвеня 1994 года адбудуцца першыя ў гісторыі Беларусі выбары прэзыдэнта. Гэта падзея — разам з нядаўнім прыняцьцем Канстытуцыі дзяржавы — мае выключнае значэньне дзеля ўмацаваньня сувэрэнітэту нашай незалежнай краіны, паглыбленьня працэсу дэмакратызацыі ўсіх сфэр жыцьця.

Першы прэзыдэнт Беларусі будзе абраны ў выніку прамога тайнага галасаваньня.

У адпаведнасьці з Законам «Аб выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь», усе грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія стала жывуць ці часова знаходзяцца ў Злучаных Штатах Амэрыкі, маюць права прыняць удзел у выбарах. Галасаваньне адбудзецца 23-га чэрвеня г.г. ад 7-ой гадзіны раніцы да 10-ай гадзіны па-паўдні на двух выбарчых участках:

*Embassy of the Republic of Belarus*
*1619 New Hampshire Avenue, N.W.*
*Washington, D.C. 20009*

*Consulate General of the Republic of Belarus*
*708 3rd Avenue*
*18th Floor # 1802*
*New York, NY 10017*

Тыя з выбаршчыкаў, хто ня мае магчымасьці ўдзельнічаць у выбарах непасрэдна 23-га чэрвеня, змогуць прагаласаваць у любы дзень, пачынаючы ад 13-га чэрвеня, па пазначаных вышэй адрасох ад 9-ай гадзіны раніцы да 6-ай гадзіны вечара.

Запрашаем прыняць удзел у выбарах і ўнесьці Ваш асабісты ўклад у дэмакратыю Беларусі!

**Пасольства Рэспублікі Беларусь**

## АХВЯРА НА BELARUSIAN REVIEW

*На выдавецкі фонд «Беларускага Адляду»:*

А. Лашук 500 брыт. фунт. (694 ам. дал.)

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | кан. дал. 300 |
| Я. Сурвілла (замест кветак на магілу А. Бяленіса) | ам. дал. 100 |
| У. Набагез | 100 |
| Сям'я Магаліф (замест кветак на магілу Валодзі Бычкоўскага) | 75 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Л. Беленіс | 50 |
| В. Рамук | 30 |
| T. Bird | 25 |
| А. Сільвановіч (Фонд Чарнобыля) | 25 |
| С. і Н. Стаськевіч (замест кветак на магілу П. Трысмаковай) | 25 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| Magalif International (за обвестку) | 25 |

*Лісма М. Сенькі (Англія)*

| | |
|---|---|
| М. Швэдзюк | брыт. фунт. 50 |
| А. Якубовіч | 25 |
| А. Лашук | 25 |
| Я. Дамінік | 25 |
| А.Б. Като | 22 |
| П. Асіповіч | 20 |
| Я. Хахолка | 20 |
| М. Дзейко | 20 |
| Я. Міхалюк | 20 |
| М. Залога | 20 |
| А. Ражанец | 20 |
| А. Здановіч | 20 |
| П. Шыркоўскі | 20 |
| М. Сенька | 20 |
| Г. Пікарда | 15 |
| В. Мартынчык | 15 |
| Разам | 342 брыт. фунт. (500 ам. дал.) |

| | |
|---|---|
| П. Шыркоўскі | Бр. фунтаў 20 |
| М. Кастышын | аўстр. дал. 35 |
| У. Акавіты (за продаж газэтаў) | 55 |
| М. Зуй | 20 |

*Лісма П. Барысіка з Бэльгіі*

| | |
|---|---|
| П. Занкоўскі | бэльг. фр. 1000 |
| Л. Клыбік | 1000 |
| З. Смаршчок | 1000 |
| А. Арэшка | 800 |
| П. Барысік | 500 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| А. Кіпель | ам. дал. 200 |
| Ю. Кіпель | 100 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| Я. Аўдзей | 50 |
| І. Гайдэль | 50 |
| І. Калоша | 35 |
| В. Букатка | 30 |
| В. Пашкевіч | 30 |
| К. Ворт | 30 |
| С. Янкоўскі | 30 |
| Г. Агоніс | 25 |
| Э. Маркоўская | 25 |
| А. Губэрт | 25 |
| А. Кузьміч | 25 |
| М. Алійнык | 25 |
| Я. Скурат | 25 |
| П. Бурдзь | 25 |
| Н. Кудасава | 25 |
| М.К. | 25 |
| М. Рагалевіч | 25 |
| М. Сенька | 25 |
| В. Цярпіцкі | 25 |
| В. Бурдзь | 25 |
| А. Хрэноўскі | 25 |
| С. Шабовіч | 25 |
| А. Супрун | 25 |
| М. Аляксандар | 25 |
| Л. Данілюк | 25 |
| А. Шастак | 25 |
| South River Travel Service | 25 |
| Разам | 1105 |

## ЗВАРОТ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА

Паважаныя суродзічы! БІНІМ зварачаецца да Вас з просьбай аб фінансавай дапамозе нашым выдавецкім плянам.

У выдавецтве БІНІМу падрыхтаваныя да друку гэткія выданьні:

**Гісторыя Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, 1945-1950. Аўтар Янка Максімюк.**

**Выбраныя творы Уладзімера Дудзіцкага. Уступнае слова, аналіз творчасьці, бібліяграфія: Лявон Юрэвіч, Алена Юрэвіч і праф. Том Бэрд.**

**Выбраныя творы Міколы Цэлеша (у падрыхтоўцы), рэдактар выданьня Лявон Юрэвіч.**

**Ангельска-Беларускі слоўнік (каля 30-і тысячаў слоў). Укладзены Валентынай Пашкевіч. Тэхнічны рэд. Юрка Станкевіч.**

Каб выдаць гэтыя кнігі патрэбныя значныя сумы грошай, прытым аплата ідзе толькі на выдавецкія патрэбы, друкарскія, а ўся іншая праца — на грамадзкіх пачатках.

У мінулым БІНІМам былі выдадзеныя творы Н. Арсеньневай, А. Салаўя, А. Саковіч, М. Кавыля, манаграфіі Ю. Туронка, А. Мальгуя і В. Мартыненкі, А. Бярозкі ды іншыя шляхам грамадзкіх ахвяраваньняў. Вось і гэтым разам БІНІМ спадзяецца на Вашую падтрымку — трыманьня традыцыі навукова-мастацкага кнігадрукаваньня на эміграцыі.

**Управа БІНІМу**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

*На выданьне кнігі аб Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне ахвяравалі:*

| | |
|---|---|
| В. Станкевіч | ам. дал. 200 |
| В. Ковэт | 50 |
| Г. Руднік | 50 |
| К. Акула | 25 |

Абмежаваная колькасьць падпісаных аўтарам і пранумараваных кніжак пакідаецца для асобаў, якія ахвяруюць 100 ам. даляраў і болей.